# НА СВАЕ ВОЧЫ



## Загад Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь ад 9 чэрвеня 1998 г. № 203-ОД, г. Мінск

### АБ РЭАЛІЗАЦЫІ ДЭКРЭТА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 05.06.98 г. № 8 «АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАННЯХ ПАДАТКААБКЛАДАННЯ І ПЛАЦЯЖОЎ У БЮДЖЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У 1998 ГОДЗЕ»

У выкананне Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 05.06.98 г. № 8 «Аб некаторых пытаннях падаткаабкладання і плацяжоў у бюджэт Рэспублікі Беларусь у 1998 годзе» **загадваю**:

1. З 6 чэрвеня 1998 года браць у свабодна канверсоўнай валюце або расійскіх рублях:

1.1. мытную пошліну, падатак на дабаўленую вартасць, акцыз, зборы за мытнае афармленне, зборы за выдачу пасведчання формы ТС-25А пры ўвозе на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь фізічнымі асобамі транспартных сродкаў (код ТН ВЭД СНД 8703);

1.2. мытную пошліну і зборы за мытнае афармленне пры перамяшчэнні фізічнымі асобамі рэчаў цераз мытную мяжу Рэспублікі Беларусь у якасці асабістай маёмасці звыш нормаў, якія ўстаноўлены заканадаўствам;

1.3 мытную пошліну, акцыз і падатак на дабаўленую вартасць пры ўвозе на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь тавараў суб'ектамі гаспадарання, якія маюць ліцэнзіі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на іх рэалізацыю за замежную валюту;

1.4. падатак на даходы замежных юрыдычных асоб, якія не ажыццяўляюць сваёй дзейнасці праз пастаянныя прадстаўніцтвы, ад рэалізацыі тавараў, увезеных на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь для дэманстрацыі на выстаўках, выстаўках-продажах і кірмашах.

2. Праводзіць мытнае афармленне транспартных сродкаў, увезеных на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь да 6 чэрвеня 1998 года, з уплатай мытных плацяжоў у беларускіх рублях або, па жаданню плацельшчыка, у свабодна канверсоўнай валюце.

3. Праводзіць мытнае афармленне транспартных сродкаў, увезеных на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь з 6 чэрвеня 1998 года, фінансавыя гаранты ў адносінах да якіх прадастаўлены мытным органам у беларускіх рублях, са зборам мытных плацяжоў у свабодна канверсоўнай валюце або расійскіх рублях.

Фінансавыя гаранты, прадастаўленыя ў беларускіх рублях, падлягаюць вяртанню плацельшчыкам ва ўстаноўленым парадку.

4. Праводзіць мытнае афармленне ў рэжыме перавозкі пад мытным наглядам транспартных сродкаў, увозімых пасля 5 чэрвеня 1998 года, па фінансавых гарантыях уплаты мытных плацяжоў, якія былі ўнесены фізічнымі асобамі да ўвядзення ў дзеянне Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 05.06.98 г. № 8.

5. Начальнікам мытняў на працягу трох дзён сфарміраваць і перадаць факсімільнай сувяззю або электроннай поштай рэестры з пагранічных мытняў у мытні па месцы жыхарства фізічных асоб, якія ажыццявілі ўвоз транспартных сродкаў, выпушчаных у свабоднае абарачэнне з 0 гадзін 06.06.98 г. з уплатай мытных плацяжоў (зборы за мытнае афармленне, мытная пошліна, акцыз, падатак на дабаўленую вартасць) у беларускіх рублях. Рэестр павінен утрымліваць наступныя рэквізіты: нумар і дата рэестра, прозвішча, імя, імя па бацьку плацельшчыка, нумар і дата плацежнага дакумента, сума кожнага віду плацяжу, аб'ём рухавіка транспартнага сродку, выніковая сума па разліку.

У адпаведнасці з вышэйназванымі рэестрамі на працягу аднаго дня пералічыць сумы мытных плацяжоў, заплачаных у беларускіх рублях на рахунак мытні па месцы жыхарства асобы. У плацежным даручэнні павінна быць спасылка на нумар і дату рэестра. На кожны рэестр афармляецца асобнае плацежнае даручэнне.

Мытням па месцы жыхарства плацельшчыка правесці вяртанне ва ўстаноўленым парадку плацяжоў, заплачаных у валюце Рэспублікі Беларусь, і забяспечыць збор мытных плацяжоў у свабодна канверсоўнай валюце або расійскіх рублях.

6. Начальнікам мытняў забяспечыць кантроль за журналамі рэгістрацыі фінансавых гарантый уплаты мытных плацяжоў.

7. Прававому ўпраўленню (Мыцько П. С.) забяспечыць апублікаванне гэтага загада ў сродках масавай інфармацыі.

8. Начальніку Мінскай цэнтральнай мытні (Салікаў А. С.) у двухдзённы тэрмін унесці адпаведныя змяненні ў базы даных НСІ і забяспечыць імі мытні.

9. Начальнікам мытняў давесці змест гэтага загада да асабовага складу мытняў, мытных агенцтваў, суб'ектаў гаспадарання і фізічных асоб, якія знаходзяцца ў зоне дзейнасці мытняў.

10. Гэты загад падлягае рэгістрацыі ў Рэестры дзяржаўнай рэгістрацыі і ўступае ў дзеянне з даты апублікавання.

11. Кантроль за выкананнем гэтага загада ўскласці на намесніка старшыні Камітэта Гошына В. А.

**Першы намеснік старшыні Камітэта**
**А. Н. ДЗЕРАВЯШКА.**

*Зарэгістравана ў Рэестры Дзяржаўнай рэгістрацыі 9. 06. 98 г. рэгістрацыйны № 2505/12.*

---

**Мільёны людзей ва ўсім свеце (у тым ліку і ў Беларусі) у любы момант гатовы пакінуць радзіму, каб апынуцца на берагах гэтага кантынента. Для многіх і многіх гэта імкненне ператвараецца ў мэту жыцця, у штодзённае трызненне, у ілюзорны вобраз птушкі шчасця. Напэўна, гэтыя спадзяванні небеспадстаўныя — інакш амерыканскія стандарты жыцця не былі б такім прыцягальным магнітам, і паток эміграцыі не меў бы амаль выключна аднабаковага характару. Але разам з тым амаль для кожнага, хто наважыўся на свае вочы пабачыць жыццё самай багатай у свеце краіны, створаныя ў галаве ідэальныя вобразы і схемы разбураюцца пры сутыкненні з рэчаіснасцю, мяняюць абрысы і формы, паўстаюць у новым, часта неспадзяваным святле.**

# ЗВЫЧАЙНАЯ АМЕРЫКА

У ЗША я разлічваў убачыць будучыню сваёй краіны. Сапраўды: тое, што мы спрабуем стварыць у сябе цяпер — пабудаваць незалежную дэмакратычную дзяржаву з рынкавай эканомікай, — заснавальнікі амерыканскай дэмакратыі стварылі 200 гадоў таму. Пры гэтым яны першымі ў свеце ўдала выкарысталі найбольш эфектыўную ў сённяшніх умовах эканамічную мадэль.

Сярэдні беларус, які зарабляе сёння (паводле рэальнага валютнага курса) 30—40 долараў у месяц, са зразумелымі захапленнем і зайздрасцю марыць пра заробак сярэдняга амерыканца — 3-4 тысячы долараў у месяц.

Грошы робяць свабоднымі, мяняюць лад жыцця і накіраванасць думак, ствараюць новыя мэты і памкненні. Аднак знешне гэта праяўляецца ў даволі неспадзяваных формах, якія часта выклікаюць супярэчлівыя ўражанні.

Нядаўна мне ў саставе невялікай групы журналістаў з краін СНД, дзякуючы запрашэнню Інфармацыйнага агенцтва ЗША (ЮСІА), давялося пабываць у Злучаных Штатах. Арганізатары паклапаціліся пра тое, каб мы ўбачылі розную Амерыку — багатую і бедную, лаяльную да ўлады і апазіцыйна настроеную, гранічна урбанізаваную і правінцыйную...

І хоць праграма, распрацаваная на газетных журналістаў, уключала галоўным чынам паездкі і сустрэчы, карысныя з пункту гледжання нашых прафесійных інтарэсаў, — адначасова мы знаёміліся са штодзённым жыццём звычайных амерыканцаў, гутарылі з імі, абменьваліся думкамі, спрачаліся.

Мяркую, некаторыя з уражанняў ад гэтых сустрэч і гутарак будуць цікавымі і для чытачоў «Звязды».

**І. Калі ўлада абыякавая выбаршчыкам — значыць яна добра працуе?**

Амерыканцы самі прызнаюць, што мала цікавяцца праблемамі іншых краін. І тое, што так уражвае нашых суайчыннікаў (напрыклад, шырока апісваемыя ў айчынным друку сітуацыі, калі заходні субяседнік не мае ўяўлення, у якім канцы свету размешчана Беларусь), — на самай справе зусім не сведчыць пра заганы ў працы інфармацыйных службаў беларускіх пасольстваў або слабую ролю, якую адыгрывае наша краіна ў сусветнай палітыцы. З такой жа верагоднасцю можа выявіцца, што ваш амерыканскі знаёмы блытае Аўстрыю з Аўстраліяй, а Швецыю са Швейцарыяй. Пры гэтым ён мае сярэднюю амерыканскую адукацыю і выдатна валодае сваёй спецыяльнасцю (напрыклад, абслугоўвае камп'ютэры або рамантуе аўтамабілі).

Там гэта нікога не здзіўляе і не ўражвае. Калі зыходзіць з вузка прагматычнага пункту гледжання, то, сапраўды, каб добра рамантаваць камп'ютэр, зусім не абавязкова ведаць, хто перамог на выбарах у Венгрыі. Уражвае, аднак, тое, што ў гэтага лагічнага ланцуга мноства іншых звёнаў: гэтым жа довадам можна аргументаваць адсутнасць элементарных ведаў, напрыклад, пра тое, хто з кім ваяваў падчас другой сусветнай вайны, ці літаратуру якой краіны прадстаўляе Віктор Гюго.

На гэтыя і мноства іншых каляпалітычных, каля-літаратурных, калямастацкіх пытанняў, якія складаюць агульны кругагляд асобы, у выпадковага знаёмага ў нашай краіне адказ атрымаць, бадай, намнога прасцей, чым у Злучаных Штатах. Іншая справа, што ў нас дворнік, які здольны паразважаць пра творчасць Булгакава, часцей за ўсё неахвотна махае венікам і можа тыднямі не прыбіраць ля пад'езда. «Іх» дворнік (часцей за ўсё негр ці лацінаамерыканец), магчыма, не заўсёды ўмее чытаць і пісаць, затое віртуозна спраўляецца са смеццеўборачнай машынай і за лічаныя хвіліны наводзіць бляск там, дзе з вечара назбіраліся горы чорных поліэтыленавых пакетаў, у якія амерыканцы збіраюць смецце.

Вядома, вельмі добра, што ў нас усе прыбіральшчыцы маюць атэстаты аб сярэдняй адукацыі і ў абавязковым парадку павінны былі чытаць Дастаеўскага. Пры ўсім гэтым хацелася б хадзіць па чыстых вуліцах і не затыкаць нос, заходзячы ў пад'езд.

Увогуле, многія амерыканцы не дужа цікавяцца не толькі тым, як жыве астатні свет, але і палітычным жыццём ва ўласнай краіне. У штаце Юта, у горадзе Солт Лэйк-Сіці, сустракаючыся з памочніцай кангрэсмена ад гэтага штата Джэнай Т'ю, мы даведаліся, што актыўнасць выбаршчыкаў надзвычай нізкая і з часам усё больш зніжаецца. Асабліва гэта датычыць выбараў у мясцовыя органы ўлады: здараецца, на выбарчыя ўчасткі з'яўляецца менш як 20 працэнтаў тых, хто мае права голасу.

Прыкметна большую цікавасць праяўляюць амерыканцы да прэзідэнцкіх выбараў, але і там актыўнасць выбаршчыкаў вымяраецца даволі сціплымі (па нашых мерках) лічбамі. Напрыклад, у прэзідэнцкіх выбарах 1984 года ўдзельнічалі 53,1 працэнта тых, хто меў права голасу; у выбарах 1988 года — 50,1 працэнта.

Існуе многа тлумачэнняў гэтай пасіўнасці і абыякавасці. Бадай, найбольш праўдападобнае з іх тое, паводле якога вялізная частка амерыканцаў проста не жадае і не імкнецца ні да якіх палітычных змен, не бачыць істотнай розніцы ў палітыцы рэспубліканцаў і дэмакратаў, якія ўжо амаль 200 гадоў перыядычна змяняюць адны адных у Капітоліі і Белым доме.



Карэспандэнт «Звязды» ў Вашынгтоне ля мемарыяла ахвярам вайны ў В'етнаме.

Прычым такая карціна характэрна для любога стабільнага грамадства, палітычная сістэма якога адладжана за многія дзесяцігоддзі і больш-менш задавальняе інтарэсы асноўных грамадскіх груп. Напэўна, рана ці позна Беларусь таксама дачакаецца той пары, калі ўлада не будзе выклікаць такіх моцных пачуццяў сярод выбаршчыкаў (прытым не толькі празмернага захаплення, але і лютай нянавісці).

Пры ўсім тым амерыканцы ахвотна кпяць над сваімі ўладамі (і ў прыватных гутарках, і на старонках прэсы). Цяжка ўявіць, што нейкая асоба ў ЗША можа апынуцца па-за крытыкай або ў прывілеяваным становішчы. Апошнія гучныя скандалы, звязаныя з прыватным жыццём Біла Клінтана, — яркае таму пацвярджэнне.

У гісторыі краіны былі моманты, калі ўлады спрабавалі абмежаваць апетыты прэсы, яе імкненне разглядаць жыццё першых асоб «праз павелічальнае шкло». Аднак кожны раз гэтыя спробы заканчваліся правалам для іх ініцыятараў. І цяжка ўявіць, што хто-небудзь з будучых прэзідэнтаў ЗША наважыцца паўтарыць небяспечныя эксперыменты.

**Валянцін ЖДАНКО.**

Вашынгтон—Атланта—Дэ-Мойн—Солт-Лэйк-Сіці—Сент-Луіс—Нью-Йорк.

**(Працяг будзе.)**

---

*ФУТБОЛ. XVI ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ*

## БРАЗІЛЬЦЫ ПАЧЫНАЮЦЬ І ВЫЙГРАЮЦЬ,

### а іспанцы тым часам думаюць пра золата

У першы дзень чэмпіянату свету па футболу, які пачаўся ў Францыі, згуляны дзве сустрэчы у групе «А» — Бразілія—Шатландыя — 2:1, Нарвегія—Марока — 2:2.

«Бліскучай спробай», нягледзячы на пройгрыш бразільцам з лікам 1:2, назваў брытанскі міністр па справах Шатландыі Дональд Дзьюэр гульню шатландскіх футбалістаў у матчы, які азнаменаваў адкрыццё чэмпіянату свету па футболу ў Францыі.

Трэнер шатландскай зборнай Крэйг Браун, каменціруючы гульню, сказаў, што перамагла каманда, якая аб'ектыўна «больш моцная», але ў шатландскіх футбалістаў быў «рэальны шанц не прайграць», які яны, на жаль, упусцілі.

А ў гэты час... іспанцы замахваюцца на залатую карону

«Наша мэта — стаць чэмпіёнамі свету, і мы спадзяемся, што станем імі», — заявіў у інтэрв'ю іспанскім журналістам Хаўер Клементэ, трэнер зборнай Іспаніі. Праўда, ён тут жа зрабіў агаворку, што група, у якой выступаюць іспанцы, самая цяжкая.

Дарэчы, іспанцы настолькі ўпэўненыя ў пасняховым выступленні на першым этапе, што сталі прыглядацца да гульні зборнай Бразіліі, лічачы, што менавіта з ёю ім давядзецца сустрэцца на другім этапе.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

---

## ВІНШАВАННІ

***Сямён Аляксандравіч КАСЦЮКЕВІЧ**! Віншуем з 70-гадовым юбілеем.*

*Улыбнись веселей —*
*это ваш юбилей.*
*Много радостных дней*
*и спокойных ночей,*
*долгой жизни,*
*здоровья желаем!*

**Сям'я Войцікаў,** в. Сіняўка.

*Віншую дарагога татачку **Фёдара Мікалаевіча ЯКУША** з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту і поспехаў у жыцці.*

**Любячая дачка Наталля,**
в. Савічы Калінкавіцкага раёна.

*Сардэчна віншуем дарагога сына і брата **Міхаіла Леанідавіча ПІВАВАРЧЫКА** з в. Любашава з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсіх справах.*

**Бацькі, брат Ігар.**
Ганцавіцкі раён.

---

*ІДЭІ І ЛЮДЗІ*

# БЕЛАРУСКАЕ — ЗНАЧЫЦЬ ЯКАСНАЕ, НАДЗЕЙНАЕ, ЗРУЧНАЕ І ТАННАЕ

*Добра, што «Звязда» ці не адзінае выданне ў краіне, якое пастаянна і сур'ёзна прапагандуе лепшыя вырабы беларускіх прадпрыемстваў. Гэта пахвальна і вельмі да твару адзінай беларускамоўнай штодзённай газеце. Сапраўды, беларуская прадукцыя, пераканана, не горшая, а ў многіх выпадках і лепшая за замежныя аналагі. З цікавасцю, напрыклад, пазнаёмілася я з днём сённяшнім рагачоўскага завода «Дыяпраектар». Гэта прадпрыемства ВПК, здаецца, знаходзіць сваю нішу — напрацавана шмат цікавых, у першую чаргу медыцынскіх, вырабаў. Сапраўды, беларускія тавары — гэта якасць, надзейнасць, зручнасць, эфектыўнасць і таннасць. Менавіта такія прадпрыемствы павінны падтрымліваць не толькі газета «Звязда», але і ведамствы — непасрэдныя спажыўцы новых установак, закупляючы падобныя не на Захадзе, а ў айчынных вытворцаў. Тым самым мы будзем укладваць інвестыцыі ў развіццё сваёй эканомікі, а не заходняй. Да таго ж гэта будзе значная валютная эканомія для краіны.*

*«Звязда» каторы раз разыгрывае сярод падпісчыкаў газеты тавары толькі беларускіх прадпрыемстваў. Бачыла на здымку ў газеце, як выглядае цяпер прадукцыя былога «Белвара» — Мінскага прыборабудаўнічага завода. Выглядае кухонная машына не горш, чым замежная. Але ці не маглі б вы больш падрабязна расказаць аб прадукцыі гэтага вядомага прадпрыемства.*

**Марына НАВУМОВІЧ, чытачка «Звязды» з Баранавіч.**

BELVAR — МИНСКИЙ ПРИБОРОСТРОИТЕЛЬНЫЙ ЗАВОД

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Мінскі прыборабудаўнічы завод» больш вядомае як былое вытворчае аб'яднанне радыётэхнікі «Белвар», а яшчэ раней — Мінскае вытворчае аб'яднанне імя Леніна. Заснавана прадпрыемства ў 1907 годзе. Сапраўды, па зменах назвы завода можна прасачыць не толькі яго гісторыю, але і гісторыю ўсёй нашай краіны. Сёння — гэта буйнейшае ў краінах СНД прадпрыемства радыётэхнічнага профілю, дзе выпускаецца больш як 200 найменняў вырабаў. Прадукцыя АТТ «Мінскі прыборабудаўнічы завод» — гэта складанейшыя радыёвымяральныя прыборы: асцылографы, вальтметры, мульціметры, дазіметры, медыцынская тэхніка, электрабытавыя прыборы. У яе аснове — навейшыя тэхналогіі, перадавыя распрацоўкі, павышаныя надзейнасць і якасць.**

— У савецкія часы 98 працэнтаў прадукцыі завода выраблялася для ваенна-прамысловага комплексу, — расказвае начальнік аддзела маркетынгу Віктар Тарасевіч, — і толькі 2 працэнты выпускалася тавараў народнага спажывання. Сярод нашых спажыўцоў былі вядучыя касмічныя і абаронныя фірмы, навукова-даследчыя інстытуты. Канверсія, а потым і развал Саюза прымусілі правесці амаль поўнае перапрафіліраванне прадпрыемства. Маючы высокасучасны цэх па вырабу калектарных рухавікоў, мы палічылі мэтазгодным наладзіць вытворчасць складанай бытавой тэхнікі. І ўжо ў 1993 годзе аб'ём выпуску тавараў народнага спажывання склаў 66 працэнтаў у агульным аб'ёме ўсіх вырабаў. Але нягледзячы на гэта ў нас захавалася і ўся асноўная наменклатура прадукцыі — радыёвымяральныя і дазіметрычныя прыборы. Важна адзначыць, што, праводзячы канверсію, мы не толькі захавалі тэхналагічную базу, але і ўзнялі яе на больш высокую ступень. Напрыклад, закупілі ў Галандыі новую тэхналагічную лінію па вырабу селектараў тэлеканалаў. Сёння ўсе беларускія заводы, дзе вырабляюцца тэлевізары («Гарызонт», «Віцязь», «Радыёхваля»), выкарыстоўваюць нашы селектары, якія адпавядаюць самым высокім патрабаванням. На такіх лініях вырабляе падобную прадукцыю сусветна вядомая фірма «Філіпс». А набыццё сучаснай лініі па вырабу пластмасы дазволіла нам значна змяніць знешні выгляд тавараў. Дарэчы, усе састаўляючыя прадукцыі (і рухавікі, і платсмасу) вырабляюцца непасрэдна на заводзе, што дае магчымасць наладзіць сервіснае абслугоўванне на самым высокім узроўні.

***— Вядома, што ў вас сапраўды шырокая наменклатура тавараў. Ці не маглі б вы назваць іх коратка і больш канкрэтна?***

— Па-першае, гэта класічныя для нашага завода радыёвымяральныя прыборы. Вытворчая праграма па іх выпуску складаецца з 4 асноўных напрамкаў: асцылаграфія, вольтметрыя, электраметрыя і мульціметры. Па-другое, добрыя водгукі атрымліваем мы ад спажыўцоў нашых электрабытавых прыбораў для апрацоўкі прадуктаў харчавання і прыгатавання ежы.

***— Помню яшчэ тыя часы, калі нельга было набыць электраміксер вытворчасці вашага прадпрыемства.***

— Акрамя яго цяпер мы выпускаем электрамясарубкі «Памочніца», электрашынкоўкі-таркі, харчовыя працэсары «Мэта» (яны могуць выконваць аперацыі за сокавыціскалку, шынкоўку, міксер і мясарубку), электрашафы-грыль і электрашафы-сушылкі «Свіслач», а таксама кухонныя электрамеханічныя машыны.

Ёсць у нас выдатныя напрацоўкі і для мужчын. Трэці важны блок нашых вырабаў — электраінструмент. Асаблівай папулярнасцю карыстаюцца электрадрылі «Майстар», а насадкі лобзік, піла, рубанак, перфаратар, якія пастаўляюцца асобна, значна пашыраюць іх функцыянальныя магчымасці. А вось электрарубанак і электрапіла адносяцца ўжо нават да паўпрафесіянальных інструментаў і могуць выкарыстоўвацца не толькі аматарамі, але і прафесіянальнымі будаўнікамі.

Да галоўнай групы тавараў нашага завода адносяцца электранагравальныя прыборы: кіпяцільнікі, прасы, вядомыя многім жанчынам прыборы для завіўкі валасоў «Надзейка». Новая распрацоўка прадпрыемства — воданагравальнік праточны, які можа выкарыстоўвацца ў дачных доміках, катэджах, у сельскіх дамах, дзе ёсць праточная вада.

Нельга не адзначыць і прадукцыю медыцынскага накірунку. У свой час распрацоўшчыкі дазіметра РКСБ-104 атрымалі Дзяржаўную прэмію Беларусі. Такім прыборам вымяраецца гама- і бета-выпраменьванні, актыўнасць радыёнуклідаў у рэчах і ў прадуктах. Ваша газета ўжо расказвала аб магчымасцях і перавагах экспрэс-аналізатара ўтрымання глюкозы ў крыві «Глюкаметр ГМ-1», які прызначаны для хворых на цукровы дыябет. Ён значна таннейшы і больш просты ў выкарыстанні, чым замежныя аналагі. Вырабляюцца ў нас і апараты магнітатэрапіі, з дапамогай якіх лечаць радыкуліты, прастудныя захворванні тканак мышцаў і інш.

Сярод новых напрацовак мэтазгодна адзначыць лічбавыя АТС, кодавыя прыёмнікі, печы ратацыйныя для выпечкі хлеба і іншых кандытарскіх вырабаў, а таксама касавыя апараты і скрэмблеры для абароны інфармацыі пры праслухоўванні перадаваемай па каналах гарадской і міжгародняй тэлефоннай сувязі.

**Мяркуем, што гэты, няхай нават няпоўны, пералік прадукцыі, якую выпускае зараз Мінскі прыборабудаўнічы завод, дае ўяўленне аб сур'ёзнасці напрацовак калектыву прадпрыемства і яго намераў замацавацца не толькі на рынках сваёй рэспублікі, але і іншых краін СНД, а таксама далёкага замежжа.**

**Атрымаць кансультацыі па пытаннях выкарыстання і набыцця прадукцыі можна ў ААТ «Мінскі прыборабудаўнічы завод» (г. Мінск, прасп. Ф. Скарыны, 58, тэл. 239-99-00, 239- 94-42, 239-94-85).**

*(У наступных публікацыях спецыялісты Мінскага прыборабудаўнічага завода прадставяць чытачам «Звязды» сваю лепшую прадукцыю).*

---

*СЁННЯ*

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.37 | 21.40 | 17.03 |
| Віцебск – | 4.19 | 21.39 | 17.20 |
| Магілёў – | 4.27 | 21.30 | 17.03 |
| Гомель – | 4.33 | 21.19 | 16.46 |
| Гродна – | 4.54 | 21.55 | 17.01 |
| Брэст – | 5.04 | 21.45 | 16.41 |

**ІМЯНІНЫ**
**ПР. Ісаакія**
**К. Льва, Ануфрыя**

**МЕСЯЦ**
**Поўня 11 чэрвеня**
*З 22.40 — 19-ыя месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Казярога.*

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, магчымы град. Тэмпература паветра ў Гродне, Мінску, Віцебску — 28—30, Брэсце, Магілёве — 29—31, Гомелі — 30—32 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак месцамі па рэспубліцы пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы, магчымы град. Тэмпература ўначы 13-га — 15—20, 14-га — 10—15, удзень — 19—24; 13-га па ўсходу — 25—30 градусаў вышэй нуля.

---

# Усё пра Беларусь вядома, калі «Звязда» ў вашым доме!

**УВАГА: розыгрыш прызоў «Звязды», Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, РА «Белпошта»!**

***Выпісвайце «Звязду»! Выйгравайце высакаякасныя і надзейныя вырабы айчынных вытворцаў!***

**4 Картка ўдзельніка (падпісчыка «Звязды») розыгрышу прызоў**

Прозвішча, імя, імя па бацьку ______________________

______________________

Падпіска аформлена і аплачана ў ______________________
(аддзяленне сувязі)
______________________ на тры месяцы

Хатні адрас і тэлефон ______________________

______________________

______________________



***І на гэты раз мы не здрадзілі традыцыі, якая, мяркуючы па пісьмах чытачоў, ухваляецца: зноў з дапамогай Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання разыгрываецца***

*наш галоўны, жывы прыз —*

*ПАРАЧКА ПАРСЮЧКОЎ ДЛЯ ДАРОШЧВАННЯ.*

**ЖОДЗІНСКАЕ АДКРЫТАЕ ТАВАРЫСТВА «СВІТАНАК»**
**прадстаўляе 14 фірменных спартыўных маек з эмблемай газеты «Звязда».**

BELVAR — МИНСКИЙ ПРИБОРОСТРОИТЕЛЬНЫЙ ЗАВОД

*Галоўны прыз — электрашафа-грыль «Свіслач»,*

**а таксама:**
**электрадрыль — «Майстар» — 1;**
**прыборы для завіўкі валасоў — 2;**
**электрамясарубка «Памочніца» — 1;**
**электрапрасы «Камфорт» — 4;**
**глюкамер — 1;**
**кухонная электрамеханічная машына — 1.**

**ААТ «Брэстгазаапарат»:**
*Галоўны прыз — пліта СВЧ бытавая «Тытан»,*

**а таксама:**
**пліта бытавая газавая — 1;**
**пліты газавыя турысцкія — 2.**

**ЛІДСКІ ЗАВОД ЭЛЕКТРАВЫРАБАЎ**
**трохражковыя люстры — 7;**
**электрападвесы — 6;**
**бра — 5;**
**настольныя лямпы — 6;**
**электралямпы «Прышчэпка» — 15.**

**Магілёўскі ліфтабудаўнічы завод:**
**наборы для ваннага пакоя — 4.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА** Колькасць камплектаў ____

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар

на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | | |

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ЗВЯЗДА** *РАЗЫГРЫВАЮЦЦА 14 ПАДПІСАК НА ГАЗЕТУ «ЗВЯЗДА» НА IV КВАРТАЛ 1998 ГОДА.*

## ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З НАМІ!

---

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## Панядзелак, 15 чэрвеня

### Беларускае тэлебачанне

**7.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**8.00** Рэзананс.
**8.50** Тэлебарометр.
**9.05** «Сёння з вамі...» Народная артыстка Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Лілія Давідовіч.
**9.40** Прэм'ера песні.
**9.55** Мульціклуб.
**10.40** «Справы судовыя». Тэлесерыял (ЗША).
**11.35** Абібок.
**12.05** Тэленавігатар.
**12.25** «А музыка гучыць...» «Аперэта, аперэта»
**13.00** Навіны.
**13.15** Е. Папова. «Аб'ява ў вячэрняй газеце». Спектакль тэатра імя М. Горкага. Частка 1-я.
**14.10** Роднае слова. «Кнігазбор».
**14.40** Параграф. Перадача для беспрацоўных.
**15.00** Навіны.
**15.15** Відэакурс французскай мовы.
**15.45** Мультфільмы.
**16.10** Спажывецкая карзіна.
**16.25** Рэгіён. Перадача з Гродна.
**17.00** Канцэртны сезон. Інструментальная група «Супай» (г. Мінск).
**17.30** Госці ў дом. Навука бізнеса ў свеце.
**18.00** Навіны.
**18.20** «Справы судовыя».
**19.15** Беларускі хіт-парад.
**19.20** «Сёння з вамі...» Старшыня Мінгарвыканкама Уладзімір Ярмошын.
**20.00** «Марскі бой». Тэлелато.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** «Панядзелак з Хрыстафорам».
**22.15** А. Фрэйндліх, В. Ланавой, І. Смактуноўскі ў фільме «Ганна і Камандор».
**23.40** Трэці тайм.
**0.10** Навіны.
**0.25** Мотаспорт. Супербайк-98.

### ГРТ

**15.20** Футбол. Чэмпіянат свету. Зборная Англіі — зборная Туніса.
**16.20**, **22.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.30** «Ракавая спадчына».
**18.10** Надвор'е.
**18.15** Гадзіна пік.
**18.40** Адгадай мелодыю.
**19.10** Панядзелак з Познерам. Праграма «Чалавек у масцы».
**20.00** Час.
**20.40** Серыял «Горац».
**21.50** Футбол. Чэмпіянат свету. Зборная Германіі — зборная ЗША.
**0.00** Забароненыя плады ў фільме «Сад».
**1.50** Праграма перадач.

### Расія

**9.05** «Санта-Барбара».
**10.00**, **13.00**, **16.00**, **19.00**, **22.40** Весткі.
**10.30** Футбол. Чэмпіянат свету. Ямайка-Харватыя.
**11.55** Чэмпіянат НБА. Фінал.
**13.30** «Пунсовая кветачка». Мультфільм.
**14.10** «Маленькі бадзяга». Тэлесерыял (Канада).
**14.35** «Каралеўства крывых люстэркаў».
**15.55** Прагноз надвор'я.
**16.30** Кальцавыя аўтагонкі.
**17.25** Івар Калныньш і Любоў Палішчук у дэтэктыве «Цана галавы».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.45** «Санта-Барбара».
**20.45** Футбол. Чэмпіянат свету. Румынія—Калумбія.
**23.00** Дзяжурная часць.
**23.15** Бэзавы туман.
**23.55** Аўташоу.
**0.25--0.28** Прагноз надвор'я.

### Культура

**7.00** Праграма перадач.
**7.05, 13.00, 19.30, 23.00** Навіны культуры.
**7.25** «Прыгоды Электроніка». Маст. фільм. 1-я серыя.
**8.35** Рамансіяда-98.
**9.00, 11.00, 15.00, 17.00** Навіны.
**9.05** Лосеўскія бяседы.
**10.05** Тэатральная правінцыя?
**10.30** Кансіліум.
**11.05** І. Бунін. «Аб каханні».
**11.35** «Старыкоўская справа». Тэлеспектакль па апавяданнях В. Шукшына.
**12.35** Інтэрв'ю тэлеканалу «Культура». Пісьменнік Умберта Эко.
**13.15** «Варыяцыі на тэму класікі». «Церам-квартэт».
**13.45** «Дзіцячы свет». С. Сабінава.
**14.15** «Уверх па лесвіцы, якая вядзе ўверх». Канстанцін Худзякоў.
**14.45** Разам з Фафалем.
**15.05** Да юбілею вялікага паэта. Чытаючы «Аповесці Белкіна». Частка 1-я.
**15.35** Канцэрт лаўрэатаў конкурса вакалістаў імя Н. А. Рымскага-Корсакава.
**15.55** «Лукамор'е».
**16.15** Бачу цэль!
**16.45** Камп'ютэр.
**17.05** «2003». Да 300-годдзя Санкт-Пецярбурга.
**17.10** Міжнародны агляд.
**17.50** «Скарбы Пецярбурга». «Музей у музеі».
**18.05** «Дакумент-панарама». «Развітанне», «Нам не дадзена прадугадаць».
**19.05** Мультфільм.
**19.15** Цуд-казка.
**19.50** Поль Гоген. Погляд з мінулага.
**20.30** Загадкі архіва Мандэльштама.
**20.45** Пасля навін.
**21.05** «Вецер у спіну». Маст. фільм.
**21.50** Першае знаёмства.
**22.05** «Дарога да танца». І. Маісееў.
**23.20** Праграма перадач.

### НТБ

**5.00** «Сёння раніцай».
**7.40** «Дзяржаўная мяжа». Фільм 5-ы. 1-я серыя. «Год сорак першы».
**9.10** Учора ў «Выніках».
**10.10** «Усяго» з Віктарам Шандаровічам.
**10.25** Вынікі.
**11.25** «Варыянт «Амега». Частка 9-я.
**13.15** Серыял «Каханне і тайны Сансет-Біч».
**14.00** Футбольны клуб на чэмпіянаце свету.
**15.20** «Вуліца Сезам».
**15.50** Мультсерыял «Чалавек-павук» (ЗША).
**16.15** «Тарзан». 10-я серыя (ЗША).
**17.05** Крымінал.
**17.15** У запас.
**17.25** «Самыя гучныя злачынствы XX стагоддзя». 8-я серыя. «Лорд Хо-Хо. Здрада Уільямса Джойса».
**18.00**, **21.00** Сёння ўвечары.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Камедыя жахаў «Зубасцікі». Фільм 3-і (ЗША).
**20.40** «Лялькі».
**21.50** «Дзяржаўная мяжа». Фільм 5-ы. «Год сорак першы».
**23.10** Сённячка.
**23.45** Сёння апоўначы.
**0.10--0.30** Футбольны клуб на чэмпіянаце свету.

### 8-ы канал

**18.00** Праграма Кенета Копланда.
**18.30** «Свавольнікі».
**18.45** Шматсерыйны фільм «Расія маладая», 5-я серыя. «Крэпасці быць!»
**20.00** Аэробіка «Новы Эдэм».
**20.30** Вечарніца.
**20.40** Аўтамабілі і запчасткі.
**20.45** Кліпдэнс.
**21.45** Еўропа сёння.
**22.15** Дэтэктыў па панядзелках... «Студзеньскі забойца».

**(Заканчэнне на 4-й стар.)**

